# ПАГОНЯ

Чацвер
10 жніўня 2000 г.
№ 29 (476)
Кошт 70 рублёў

## Чакаем Лукашэнку

**Сёння чакаецца рабочая паездка ў Гарадзенскую вобласць прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі.**

Мяркуецца, што кіраўнік дзяржавы наведае аб'екты, размешчаныя на тэрыторыі Азёрскага сельсавета. Да наведвання прэзідэнта рыхтуюць свінаводчы комплекс і комплекс па адкорму буйной рагатай жывёлы. Плануецца, што Аляксандр Лукашэнка таксама пабывае на палях мясцовага калгаса «Азёры» і сустрэнецца з перасяленцамі з раёнаў, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Не выключана, што кіраўнік дзяржавы наведае абласны цэнтр, дзе да яго магчымага наведвання рыхтуецца мясакамбінат.

**Ася Куніцкая**

## Запольскага пахавалі ў Бярозаўцы

**7 жніўня ў пасёлку Бярозаўка Лідскага раёна Гарадзенскай вобласці адбылося пахаванне генеральнага дырэктара ААТ «Гомельшкло» Уладзіміра Запольскага.**

41-гадовы Уладзімір Запольскі быў забіты 4 жніўня ў Гомелі ў пад'ездзе свайго дома. Праваахоўныя органы лічаць гэтае забойства заказным і звязваюць яго з вытворчай дзейнасцю Запольскага. Як стала вядома, дырэктарам гомельскага завода кандыдат эканамічных навук Уладзімір Запольскі стаў два гады таму. Дагэтуль ён працаваў намеснікам дырэктара шклозавода «Нёман». Мала хто верыў, што ён у сумленнай барацьбе з іншымі прэтэндэнтамі заняў месца дырэктара «Гомельшкло».

Лічыцца, што Уладзіміру Запольскаму дапамог нехта з «вярхоў». Другой прычынай, па якой, верагодна, яго недалюблівалі, з'яўляецца яго залішняя самастойнасць пры выбары дзелавых партнёраў. Менавіта гэтыя абставіны выклікалі рознагалоссі паміж дырэкцыяй прадпрыемства і яго буйнейшымі акцыянерамі - Міждзяржмаёмасцю і гомельскім прадпрыемствам транспарту нафты «Дружба».

Паводле атрыманай інфармацыі, увесь час рацы ў Гомелі Уладзімір Запольскі падвяргаўся нападкам ананімных паклёпнікаў, яму пагражалі, а аднойчы, гавораць, нават збілі непадалёк ад дома. Таксама вядома, што ў Гомелі жыхар Гродна Уладзімір Запольскі так і не набыў ні аднадумцаў, ні сяброў. А ў апошнія месяцы ён і наогул вёў замкнуты лад жыцця. Таксама следствам устаноўлена, што забойца ці забойцы пакінулі месца злачынства, перабраўшыся праз паддашкавае памяшканне ў суседні пад'езд. Выстралы былі зроблены набоямі калібру 7,65 мм.

Ва Уладзіміра Запольскага засталіся жонка і два сыны: адзін з іх вучыцца ў абласным ліцэі, а другі - студэнт Гомельскага мединстытута.

**Ірына Шанцава**

## Забіў стрыечную сястру

**Жахлівая трагедыя здарылася 5 жніўня ў горадзе Ваўкавыск.**

Жыхар Гродна, які гасцяваў у сваёй стрыечнай сястры, забіў яе васьмімесячную дачку. Знаходзячыся ў стане рэактыўнага псіхозу, ён нанёс дзяўчынцы, якая спала, два ўдары нажом у брушную поласць. Ад атрыманых траўмаў дзіця памерла на месцы. Учыніўшы злачынства, забойца прычыніў сабе рэзаную рану брушной поласці і быў змешчаны ў бальніцу, дзе знаходзіцца і дагэтуль пад аховай міліцыі.

Па гэтаму факту распачата крымінальная справа адпаведна артыкулу 101 Крымінальнага кодэкса - «Наўмыснае забойства».

**Ася Куніцкая**

### НАДВОР'Е

**11, 12 жніўня** - пераменная воблачнасць, ападкі, вецер заходні, 4-9 м/с. Тэмпература паветра **11 і 12 жніўня** - уначы +11...+16, удзень +16...+21.

# Папа Рымскі спаткаецца з гарадзенцамі

**Раніцай у панядзелак, 7 жніўня, 280 маладых вызнаўцаў каталіцкай веры з Гродна рушылі ў доўгую вандроўку, канцавым пунктам якой стане Рым. Стартаваўшы ад Фарнага касцёла аўтобусамі, пілігрымка пройдзе па тэрыторыях Польшчы, Славакіі, Аўстрыі, Італіі і прыбудзе ў Рым, дзе 14-20 жніўня будзе адзначаны XV Сусветны Дзень Моладзі.**

Адпаведна папярэднім падлікам, у свяце возьмуць удзел больш як мільён маладых людзей не толькі з Еўропы, але і з усіх кантынентаў. У сувязі з гэтым, бургмістр Рыма нават звярнуўся да жыхароў з заклікам выехаць на час правядзення Дзён Моладзі за межы горада.

Акрамя гарадзенцаў, Беларусь у Рыме будуць рэпрэзентаваць 50 чалавек з Віцебскай дыяцэзіі і 380 з Менска-Магілёўскай ды Пінскай дыяцэзіі. Агулам, у XV Сусветным Дні Моладзі возьмуць удзел блізу 700 беларусаў. Усе яны будуць апранутыя ў кашулькі аднаго колеру з надпісам «Roma 2000 - Bielorussia».

На шляху да «вечнага горада» гарадзенцаў чакае багаты на імпрэзы побыт у італійскіх гарадах. Чатыры дні ў Бергама, пражываные ў сем'ях вернікаў і знаёмства з гістарычнай і культурнай спадчынай Італіі. Запланавана экскурсія ў Венецыю.



Асвячаецца новы касцёл на Гарадзеншчыне. Пасёлак Паўднёвы

Кульмінацыяй і галоўнай падзеяй XV Сусветнага Дня Моладзі стане святая імша, якую 20 жніўня адслужыць Папа Рымскі Ян Павал II. Адбудзецца яна непадалёк ад Рыма, у мястэчку Тор Вергата, дзе ўжо падрыхтаваны велізарны пляц памерам у 330 гектараў.

У 1997 годзе моладзь з Беларусі ўжо ўдзельнічала ў Днях Моладзі, якія тады адбыліся ў Парыжы. Аднак, тым разам удзел змаглі ўзяць толькі каля 100 чалавек.

Цяпер жа значна большая па колькасці беларуская пілігрымка вязе і дары для Папы Рымскага - абразы Маці Божай Трокскай і Маці Божай Будслаўскай.

Падчас побыту ў Рыме, гарадзенцы будуць мець магчымасць спаткацца з Янам Паўлам II, перадаць яму дарункі і прывітанні з Гародні.

**Павал Мажэйка**

# Усё менш дзіцячых дактароў, усё больш - эканамістаў

**У ВНУ адбыліся выніковыя пасяджэнні камісіяў і залічэнне тых, хто паступіў.**

У сёлетняй экзаменацыйнай пары - свае сюрпрызы. Паводле папярэдніх дадзеных, самы вялікі агульны конкурс быў у Гарадзенскі сельскагаспадарчы інстытут - 2,8 чалавекі на месца. У параўнанні з мінулым годам, тут значна ўзрос конкурс на эканамічны факультэт - 10,3 (6); агранамію - 2,6 (2,1), застаўся высокім на факультэце аховы раслінаў - 3,2.

Прывабнасць жа прафесіі лекара падае, пра гэта сведчыць і змяншэнне агульнага конкурсу ў Гарадзенскім дзяржаўным медычным універсітэце - 2,3 сёлета і 2,8 у мінулым годзе. Усё менш цікавіць абітурыентаў...педыятрычны - 1,8 (2,4) і медыка-псіхалагічны - 2,3 (3,1) факультэты. Так што элітны некалі ГрДзУ становіцца ўсё больш даступным. Аднак медычную ВНУ па-ранейшаму выбіраюць выдатнікі - іх сярод абітурыентаў прыкладна палова.

А самымі папулярнымі сярод універсітэцкіх абітурыентаў засталіся сучасныя замежныя мовы - 4,5; ангельская мова - 3,4; дэфекталогія - 3,7; правазнаўства - 3,6. Меней ахвотных было паступаць на беларускую філалогію - 1,7 сёлета і 2,5 у мінулым годзе.

Як паведамілі нам у прыёмнай камісіі ГрДзУ, сёлета падчас экзаменаў было надзвычай мала апеляцыяў - усяго чатыры на амаль 5 тысяч абітурыентаў усіх формаў навучання. Прыкладна чвэрць абітурыентаў бюджэтнай дзённай формы навучання склалі медалісты. Нягледзячы на недавер вартасці медалёў у грамадскасці, нашыя выдатнікі нядрэнна вытрымалі іспыты і склалі чвэрць у агульнай колькасці залічаных студэнтаў.

Цікавы нацыянальны склад паступіўшых у самую вялікую ў Гродне ВНУ. Пасля беларусаў (704 чалавекі) ідуць палякі (135 чалавек), а потым - рускія ды іншыя. Усяго ва ўніверсітэт залічана 928 чалавек.

**Алена Сіневіч**

## Філармонія стала манапалістам

**Гарадзенская абласная філармонія стала манапалістам. Згодна з рашэннем аблвыканкама аб упарадкаванні канцэртнай дзейнасці, на філармонію ўскладзена арганізацыя ўсёй канцэртнай дзейнасці на тэрыторыі вобласці.**

Гэтым жа рашэннем палацы і дамы культуры, клубы ды іншыя ўстановы культуры пазбаўляюцца права самастойна запрашаць на гастролі мастацкія калектывы і выканаўцаў. Для атрымання дазволу на правядзенне канцэртаў адміністрацыя згаданых структураў павінна прадставіць у філармонію ліцэнзію, рэпертуар і адпаведную рэкламную прадукцыю.

**Ася Куніцкая**

## Дзе ўзяць сорак стаматолагаў?

**Больш за 40 стаматолагаў не хапае медычным установам горада Гродна. Пра гэта паведаміў адзін з супрацоўнікаў аддзела аховы здароўя Аляксандр Грычанюк.**

Паводле яговых словаў, цяпер, у перыяд летніх водпускаў, гэты недахоп адчуваецца надзвычай востра. Як можна пераканацца, у стаматалагічнай клініцы, што па вуліцы Ажэшкі, кожны вечар утвараюцца вялікія чэргі ахвотных атрымаць запаветны квіток на прыём да ўрача. Напрыклад, да спецыяліста-парадантолага выдаюць штодня ўсяго чатыры квіткі. Каб іх атрымаць, людзі чакаюць з абеду. Хто спазніцца - застаецца без медычнай дапамогі.

Ад чаго склалася такое становішча? На жаль, да гэтага прывялі некалькі прычынаў, якія дзейнічаюць апошнія пяць гадоў. Менскі медычны інстытут зменшыў набор на стаматалагічны факультэт прыкладна ўдвая (сённяшні набор складае каля 150 чалавек). Цяпер сюды паступаюць у асноўным жыхары сталіцы. Яны з вялікай неахвотай едуць на перыферыю, бо сутыкаюцца з праблемамі жылля. На зарплату ў 35-40 тысяч рублёў прыватнага жылля не набудзеш. У Гродне планавалася арганізаваць спецыяльны ЖБК для медыкаў, выдаць ім ільготныя крэдыты. Але планы засталіся толькі планамі. Гарадзенскі медычны універсітэт стаматолагаў не рыхтуе. Аднак, калі адпаведных спецыялістаў не рыхтаваць самім, то кадравую праблему ў стаматалогіі не вырашыць. Таму кіраўніцтву медуніверсітэта трэба тэрмінова вырашаць гэтую праблему.

Больш таго, многія стаматолагі звальняюцца. Цяпер можна заняцца прыватнай практыкай, і каля 25-30 урачоў працуюць у платнай стаматалогіі. Хаця і тут праблемы: каб распачаць прыватную практыку, трэба як мінімум укласці ў абсталяванне 8-10 тысяч даляраў. Многія стаматолагі нанімаюцца на працу да тых сваіх калегаў, якія ўжо здолелі назбіраць перашапачатковы капітал.

Калі так пойдзе далей, то Гарадзеншчына можа пазбавіцца бясплатнай стаматалогіі. Тады, як лічыць галоўны ўрач першай гарадзенскай стаматалагічнай палiклінікі Іван Утлік, будзе, як у польскай вёсцы: бяззубыя сяляне-пенсіянеры эканомяць на стаматолагах. У нас жа, з нашым нізкім узроўнем жыцця, бяззубымі могуць стаць амаль усе.

**Сяргей Самасей**



**З моманту зьнікненьня нашага калегі Дзьмітрыя Завадскага мінула:**

# 34 дні

Мы патрабуем ад уладаў тэрміновага расьледаваньня абставінаў гэтай справы. Мы заклікаем супрацоўнікаў праваахоўных органаў і спэцслужбаў, а таксама людзей добрай волі прыкласьці ўсе намаганьні дзеля ўратаваньня журналіста.

## Мясцовае самакіраванне - падмурак незалежнасці

**Як паведамляла ПАГОНЯ, 2 жніўня мясцовая філія Фонду імя Льва Сапегі ладзіла ў Гродне «круглы стол» на тэму «Мясцовае самакіраванне на Беларусі: традыцыі і сучаснасць, досвед іншых краінаў, перспектывы рэфармавання». Удзельнічалі прадстаўнікі грамадскіх арганізацыяў, палітычных партыяў і прэсы з Гродна, Ліды, Ваўкавыска, Дзятлава, Смаргоні, Менска ды Бабруйска.**

З вітальнымі словамі да ўдзельнікаў «круглага стала» выступіў член Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання Сямён Домаш і праграмны дырэктар Цэнтра грамадскай адукацыі «Польшча-Беларусь» Яўген Вапа з Беластока. Спадар Вапа адзначыў, што на прыкладзе супрацоўніцтва Гарадзеншчыны і Беласточчыны можна яскрава ўбачыць плён дэцэнтралізацыі ўлады. Госць з Беластока паабяцаў арганізаваць удзельнікам «круглага стала» побыт у самаўрадах Беласточчыны, сустрэчы з мясцовымі райцамі з мэтай на месцы пабачыць, як працуе польская сістэма мясцовага самакіравання.

Падчас сустрэчы ў Гродне ўсе выступоўцы сцвярджалі, што мясцовае самакіраванне - гэта той падмурак, на якім грунтуецца як дабрабыт кожнага грамадзяніна, так і заможнасць ды незалежнасць усёй Беларусі.

Доктар гістарычных навук Алесь Краўцэвіч адзначыў, што сёньняшняя палітыка існуючай улады ў галіне самакіравання - гэта адыход у расейскае сярэднявечча. На Беларусі былі іншыя традыцыі, пачаткі якіх можна шукаць яшчэ ў племянной эпосе. Адным з красамоўных прыкладаў багатых традыцыяў самакіравання ў Беларусі, на думку Алеся Краўцэвіча, трэба лічыць старажытны Полацак, які памераў XII стагоддзя дасягнуў толькі напрыканцы XIX - у пачатку XX стст. 200 гадоў панавання Расейскай імперыі прывялі да вынішчэння нашых традыцыяў нават з візуальнай прасторы.

Тацціяна Маліноўская, Андрэй Завадскі, Мікола Кавальчук, у свой час дэпутаты адпаведна Гарадзенскага, Менскага і Ваўкавыскага гарсаветаў, у сваіх выступах узнялі праблему адукацыі лідараў мясцовага самакіравання. Для таго, каб быць дэпутатам, недастаткова простага жадання, трэба яшчэ ведаць усе праблемы свайго рэгіёна і ўмець гэтыя праблемы паспяхова вырашыць. Таму, на думку выступоўцаў, надзвычай неабходна сёння стварэнне школаў грамадзянскай адукацыі і правядзенне інвентарызацыі ўсіх праблемаў Гарадзеншчыны.

Па выніках «круглага стала» было прынята рашэнне стварыць рэгіянальную канцэпцыю рэфармавання мясцовага самакіравання на Гарадзеншчыне. У сувязі з гэтым Фонд імя Льва Сапегі распачаў збор прапановаў ад грамадскіх арганізацыяў, партыяў і звычайных грамадзянаў.

**Павал Мажэйка**

## «Вольную краіну» абстралялі шрапнэллю

**Прадстаўнікі апазіцыйных моладзевых арганізацыяў Бабруйска падалі ў пракуратуру горада, у Беларускі Хельсінкскі камітэт заявы ў сувязі з абстрэлам невядомымі моладзевага лагера.**

**Як паведаміла прадстаўнік бабруйскай арганізацыі «Грамадзянскі форум» Тацццяна Капец, лагер пад назвай «Вольная краіна» на беразе ракі Бярэзіна, каля вёскі Даманова Бабруйскага раёна, быў арганізаваны 2 жніўня. Ягонымі ўдзельнікамі былі каля 30 маладых бабруйчан.** Аднак 5 жніўня лагер «наведалі» ўзброеныя паляўнічыя, відавочна ў нецвярозым стане. Ім не спадабаўся нацыянальны бел-чырвона-белы сцяг, які лунаў на флагштоку. Пасля нецэнзурнай лаянкі - па сцягу пачалі страляць. Але гэтага ім падалося мала, і адзін з «паляўнічых» стрэліў па палатцы. Шрапнэль, рыкашэтам трапіла ў нагу дзяўчыне, якая знаходзілася непадалёк, застаўся сіняк (пазней дзяўчына звярнулася ў судова-медычную экспертызу. - Рэд.).

Пад націскам п'яных мужчынаў арганізатарам моладзевага лагера давялося скласці намёты. Услед сыходзячай калоне прагучалі яшчэ тры стрэлы ў паветра. Людзі, што напалі, паводзілі сябе не проста агрэсіўна, але і занадта ўпэўнена. Яны не звярталі ўвагі, што іх выкрыкі і пагрозы запісваюцца на дыктафон, а дзеянні сфатаграфаваныя. Паводле словаў Тацццяны Капец, адзін праваднік, з мясцовых жыхароў, распавёў, што паляўнічымі, што так нахабна сябе паводзілі, былі нібыта... работнікі міліцыі з Бабруйска.

**Генадзь Барбарыч**

ЗАЯВА

## Пра дзейнасьць кіраўніцтва Кансультатыўна-назіральнай групы АБСЭ ў Менску

**З 25 па 28 ліпеня кіраўнікі менскай місіі АБСЭ спадары Г.Вік і М.Рывалье ў суправаджэньні кіраўніка арганізацыйнай групы па падрыхтоўцы назіральнікаў на выбары спадара М.Грыба ў Брэсце й Гродне правадзілі інструкцыйныя сэмінары з удзелам прадстаўнікоў тэрытарыяльных арганізацыяў апазыцыйных партыяў і недзяржаўных грамадзскіх арганізацыяў (арганізацыяў трэцяга сэктару). Кіраўнікі місіі выклалі рэкамендацыі па ўдзеле ў арганізаваных і прызначаных А.Лукашэнкам на 15 кастрычніка 2000 году выбарах у бяспраўную так званую «палату», агітавалі за вылучэньне прадстаўнікоў апазыцыйных палітычных партыяў у выбарчыя камісіі й за фармаваньне групаў назіральнікаў.**

Палітычныя ўмовы ў Беларусі не адпавядаюць правядзеньню адкрытых дэмакратычных выбараў. Палата ня мае заканадаўчых функцыяў, як належыць мець сапраўднаму парляманту.

Рэжым Лукашэнкі ня выканаў ніводнага пункту з пакету патрабаваньняў, выпрацаваных АБСЭ, ПАСЭ й Эўрасаюзам. Гэта пацьверджана прадстаўнікамі Міністэрстваў замежных справаў краінаў Тройкі АБСЭ (Аўстрыі, Румыніі, Нарвегіі) падчас візыту 4-5 траўня 2000 году ў Менск і прадстаўнікамі Эўрапарляманту й ПА АБСЭ падчас візыту 19-22 чэрвеня 2000 году. На гэтых «выбарах» грамадзянам няма выбару - усё кантралюецца рэжымам Лукашэнкі.

У такіх умовах актыўная дзейнасьць рабочай групы АБСЭ ў Менску па прыцягненьні апазыцыйных арганізацыяў да выбараў у «палату» ёсьць праца, скіраваная на легітымізацыю дыктатарскага рэжыму Лукашэнкі й садзеяньне акупацыі Беларусі Расеяй.

Праз рабочую групу АБСЭ выдаткаваныя значныя сродкі для арганізацыі й правядзеньня «сэмінараў» па падрыхтоўцы назіральнікаў на «выбары». Праз групу пасярэднікаў, якую ўзначальвае спадар М.Грыб, да правядзеньня «сэмінараў» прыцягнутыя розныя грамадзскія арганізацыі, праваабарончыя арганізацыі, некаторыя палітычныя партыі й нават прафсаюзы.

Такім чынам, робіцца спроба дэзарыентаваць грамадзтва й дапамагчы рэжыму Лукашэнкі ў правядзеньні недэмакратычных выбараў. Праекты, якія рэалізуюцца праз менскую місію АБСЭ супярэчаць інтарэсам беларускага грамадзтва.

Беларуская інтэлігенцыя й дэмакратычнае грамадзтва, усьведамляючы небясьпеку магчымай акупацыі Беларусі кагэбісцка-імпэрскім расейскім рэжымам, прыкладаюць намаганьні па кансалідацыі грамадзтва Беларусі на барацьбу з прарасейскім рэжымам, і дзеля гэтага падрыхтавалі Ўсебеларускі Зьезд, які адбыўся 29 ліпеня 2000 года ў складзе 1350 дэлегатаў. Усебеларускі Зьезд прыняў гістарычны Акт Незалежнасьці Беларусі й пацьвердзіў, што дзяржаўная незалежнасьць зьяўляецца каштоўнасьцю беларускага народу.

Перад беларускім грамадзтвам стаіць ясная праграма дзеяньняў:

- няўдзел і непрызнаньне антыдэмакратычных выбараў у «палату», прызначаных рэжымам Лукашэнкі на 15 кастрычніка 2000 году;
- разгортваньне шырокага руху ў абарону незалежнасьці Беларусі перад пагрозай інкарпарацыі й акупацыі з боку Расеі.

Мы рашуча заяўляем пратэст супраць антыдэмакратычнасьці і антыбеларускіх дзеяньняў з расейскімі ўладамі.

Дзеяньні кіраўніцтва менскай місіі АБСЭ ёсьць працягам той палітыкі, якую праводзіў спадар А.Севярын падчас сустрэчы першага чэрвеня 2000 году са сьпікерам расейскай Дзярждумы Г.Селязьнёвым. Назіраецца скаардынаванасьць дзеяньняў з расейскай дыпляматыяй. Пацьверджаньнем таму ёсьць зварот да Лукашэнкі лідараў фракцыяў Дзяржудмы РФ у падтрымку дзеяньняў Лукашэнкі, а таксама візыт у Менск кіраўніка фракцыі ОВР Дзяржудмы РФ спадара Я.Прымакова 29 ліпеня 2000 году, падчас якога той сустрэўся з А.Лукашэнкам і падтрымаў антыдэмакратычны выбарчы закон у «палату».

Мы патрабуем спыніць антыбеларускую й антыдэмакратычную дзейнасьць кіраўніцтва Кансультатыўна-Назіральнай Групы АБСЭ ў Менску й бярэм пад сумнеў мэтазгоднасьць знаходжаньня спадара Г.Віка ў Беларусі.

Прынята кіраўніцтвам Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі - БНФ.

**Зянон Пазьняк,**
**старшыня Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» й Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі - БНФ**
**Юры Беленькі,**
**~~выконваючы абавязкі~~**
**старшыні Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» й Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі - БНФ у Беларусі**

## Як у Бярозаўскім раёне ствараюць «клімат даверу»

**Аляксандр Лукашэнка шырока абвясціў па беларускім тэлебачанні, што ў краіне перад выбарамі ў Палату прадстаўнікоў 15 кастрычніка 2000 года будзе створаны «клімат даверу». Як гэты «клімат» ствараюць у Бярозаўскім раёне, добра зведалі на сабе тыя, хто хацеў арганізаваць сустрэчы жыхароў гарадоў Белаазёрску і Бярозы з кіраўніцтвам грамадскага аб'яднання БНФ «Адраджэньне» і Партыі БНФ - намеснікам старшыні спадаром Юрыем Хадыкам (прафесарам, доктарам фізіка-матэматычных навук). Раённыя ўлады не далі дазволу на правядзенне ў Бярозе сходу, дзе б тыя, хто хоча, маглі пазнаёміцца са стаўленнем да гэтых «выбараў» дэмакратычнай апазіцыі, пачуць адказы на свае самыя розныя пытанні. Не дазволілі сустрэчу ні ў гарадскім Доме культуры, ні нават на левай бегавой дарожцы гарадскога стадыёна (куды звычайна адпраўляюць бярозаўскіх пікетоўцаў). Абгрунтаванне вельмі двухсэнсоўнае: «такія сустрэчы не прадугледжаны Законам «Аб сходах, мітынгах...». Тое ж і ў Белаазёрску.**

Паколькі гэты закон не распаўсюджваецца на сходы грамадскіх аб'яднанняў і палітычных партыяў, што праходзяць у закрытых памяшканнях, арганізатары вырашылі правесці адкрытыя сходы суполак БНФ «Адраджэньне» і Партыі БНФ, а таксама тэлефонную лінію з адказамі на пытанні тых, хто патэлефануе.

Узнікла праблема давядзення інфармацыі да тых, хто мог бы захацець прыйсці ці патэлефанаваць. Бо, да прыкладу, у Бярозе пасля таго, як гарадское кабельнае тэлебачанне размясціла платную аб'яву аб дазволеным уладамі сходзе на выбарах дэлегатаў на Усебеларускі З'езд за незалежнасць, яго супрацоўнікі (паводле іх словаў) былі папярэджаныя намеснікам старшыні райвыканкама спадаром М.Сакалоўскім пра адміністратыўную адказнасць, калі надалей будуць змяшчаць аб'явы «апазіцыі». І ўжо перад 27 ліпеня там адмовіліся прыняць платнае віншаванне з 10-мі ўгодкамі прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце (незалежнасці) Беларусі.

Усе гэтыя абставіны, безумоўна, паўплывалі на колькасць тых, хто захацеў патэлефанаваць ці прыйсці на сустрэчы.

Тым не менш, і тэлефонная лінія, і сустрэчы адбыліся. Людзі задавалі самыя розныя пытанні: найчасцей - чаму апазіцыя не ідзе на выбары; пра чатыры ўмовы, пры якіх яны згодныя пайсці на выбары; пра палітыку БНФ ды іншых дэмакратычных партыяў, «раскол» - падзел БНФ; прэзідэнцкія выбары ў будучым годзе; адносіны да саюза Беларусі і Расеі; адносіны да выхадцаў з Каўказа, што прыехалі ў Беларусь; пра асабістае жыццё, сям'ю, прафесійную і грамадскую дзейнасць, як трымаў 25-дзённую галадоўку падчас арышту ў 1996 годзе і шмат іншых.

Цікава, што свае адмовы на правядзенне сходаў улады ўпершыню далі без парушэння тэрмінаў. Жыхаркі дома, у адной з кватэраў якога адбылася сустрэча ў Бярозе, доўга сварыліся на тых, хто прыходзіў на гэтую сустрэчу. А пазней выклікалі на «бэнээфаўцаў» міліцыю. Аднак міліцыянт не ўбачыў нідзе ніякіх хуліганаў і патлумачыў, што не мае права выганяць з чыйсьці кватэры гасцей. Да таго ж, БНФ афіцыйна зарэгістраваны. Так што ёсць і нейкія станоўчыя тэндэнцыі.

**Сяржук Русецкі**

## Кіраўніцтва БНФ наведала Карэлічы й Навагрудак

**5 жніўня старшыня БНФ «Адраджэньне» й Партыі БНФ Вінцук Вячорка, намесьнік старшыні Вячаслаў Сіўчык і старшыня Юрыдычнай камісіі БНФ Галіна Сямдзянава наведалі Карэлічы й Навагрудак, дзе сустрэліся з актывістамі Фронту, а таксама з грамадзкімі дзеячамі. Асноўнаю тэмаю гутарак была сытуацыя вакол антыдэмакратычнага выбарчага фарсу і тактыка БНФ увосень (кампанія «Народны рэфэрэндум», масавыя акцыі, распаўсюджаньне ўлётак). Пасьля сустрэчы й запісу ў БНФ актывістаў у Карэлічах групу жыхароў нагнаў на службовым УАЗе ўчастковы міліцыянт і запатрабаваў паказаць паперы, якія людзі несьлі з спатканьня (былі гэта «Навіны БНФ», бюлетэнь праваабарончага цэнтру «Вясна» «Права на волю» й бланкі заяваў у БНФ). Паперы міліцыянт усё ж вярнуў. Але ў выніку гэтай акцыі запалохваньня адна жанчына адмовілася ад толькі што напісанае заявы ў Партыю БНФ.**

**Ул. інф.**

# Святар выйшаў на волю і хоча пераасвяціць храм

**У нядзелю з Берастаўіцкага ізалятара часовага ўтрымання быў адпушчаны на волю святар Ян Спасюк. Ён адседзеў пяць сутак па абвінавачваньню ў непадпарадкаваньні дзеяньням міліцыі. У знак пратэсту супраць рашэньня суда святар абвесціў галадоўку і трымаў яе ўвесь тэрмін зняволеньня.**

У мінулым нумары ПАГОНЯ паведамляла пра надзвычай жорсткія дзеяньні міліцыі ў дачыненьні да Яна Спасюка. Аднак гісторыя з апальным настаяцелем Свята-Ефрасінеўскага прыходу Беларускай Праваслаўнай Народнай Царквы мела далейшы працяг.

Пасля праведзенай у панядзелак ў Гродне прэсавай канферэнцыі святар вярнуўся ў свой прыход у пасёлак Пагранічны. Першага жніўня, у аўторак, ён быў затрыманы супрацоўнікамі Берастаўіцкага РАУС і дастаўлены ў раённы суд.

Паводле словаў Спасюка, ён запатрабаваў далучыць да справы сведкаў са свайго боку. Аднак суддзя Казакевіч у гэтым праве святару адмовіла, не дазволена было і азнаёміцца з матэрыяламі справы. Як адзначыў ПАГОНІ ўласна Ян Спасюк, на судзе прысутнічалі сем міліцыянтаў, а сам судовы працэс цягнуўся ўсяго каля трох хвілінаў.

Перад тым, як пасадзіць святара ў камеру, міліцыянты загадалі яму зьняць крыжы. Спасюк катэгарычна адмовіўся гэта зрабіць. Аднак ні начальнік Берастаўіцкага РАУС, ні дзяжурны, ні ягоны памагаты не наважыліся самі здымаць з айца Спасюка святыя рэгаліі. І толькі праз некаторы час, пад пагрозай дубінак, загад быў вымушаны выканаць сукамернік Яна Спасюка.

На наступны дзень у камеру зайшоў начальнік мясцовай міліцыі і, адпаведна словам Яна Спасюка, сказаў літаральна наступнае: «КГБ вельмі незадаволена тваімі дзеяннямі. У хуткім часе распачнецца шырокая праваахоўная кампанія, дзе будзе абвешчана, што ты - супрацоўнік КГБ. Пасядзі - падумай».


Ян Спасюк у кайданках дае інтэрв`ю журналістам

У чацвер, на трэці дзень галадавання, святару стала блага. Была выклікана «хуткая дапамога», аднак вывесці Спасюка на падворак, каб дыхнуць свежага паветра міліцыянты не дазволілі.

Юрыст Мікола Аксаміт, які аказвае святару прававую дапамогу, так ацэньвае дзеянні міліцыі і мясцовых уладаў: «Дзейнасць Спасюка іх не задавальняе, і таму яго хочуць паставіць на месца. І адмыслова далі пяць сутак, каб сарваць нядзельную службу».

Ужо ў панядзелак, на наступны дзень пасля вызвалення, айцец Ян Спасюк быў запрошаны вернікамі адпяваць нябожчыка. Людзі яму вераць і працягваюць падтрымліваць у змаганні з уладамі.

Тэлефон святара праслухоўваецца, міжнародныя арганізацыі пакуль не выказваюць адкрыта сваёй пазіцыі па гэтай праблеме, ягоная сям'я не знаходзіцца ў поўнай бяспецы. Аднак Ян Спасюк не лічыць сябе прайграўшым. «Пакуль мяне падтрымліваюць вернікі, я не прайграю, - адзначыў святар. - Будзем ісці далей - у суботу трэба пераасвяціць апаганены міліцыянтамі храм».

**Іван Паўлёнак**

# «Блакітныя берэты» памятаюць мінулае і жывуць сённяшнім

**2 жніўня - не проста Дзень паветрана-дэсантных войскаў, а іх 70-годдзе. Гарадзенская абласная арганізацыя «Беларускі саюз ветэранаў вайны ў Афганістане» адзначае яго святам, якое традыцыйна праводзіцца ў раёне скверу на вуліцы Курчатава. Менавіта тут стаіць помнік хлопцам, якія не вярнуліся з афганскай вайны.**

Дарэчы, тут жа, на вуліцы Курчатава, размешчана маленькая драўляная царква Іаана Хрысціцеля, пабудаваная паводле ініцыятывы ўсё таго ж Саюза афганцаў у гонар воінаў, забітых у XX стагоддзі. Зрубілі яе двое салдатаў (зараз яны дэмабілізаваныя). Кіраўнікі Саюза афганцаў з'яўляюцца і сябрамі прыходскага савету царквы.

Трэба адзначыць, што сярод іншых грамадскіх аб'яднанняў Саюз афганцаў вызначаецца дакладнай структурай і арганізаванасцю. Яго ўзначальвае Сяргей Камянецкі, падпалкоўнік у адстаўцы. Усё ж не дарэмна гавораць, што ваенны такім і застанецца, чым бы ён не займаўся на грамадзянцы. Напэўна, гэта дапамагае ім выжываць у наш няпросты час, ды яшчэ весці сур'ёзную дабрачынную дзейнасць. У Саюза ёсць свой юрыдычны, сацыяльны аддзелы. У 11-м ваенным гарадку ў Гродне дзейнічае клуб «Блакітныя берэты», у якім хлопцы і, што цікава, дзяўчаты 13 - 18 гадоў займаюцца рознымі відамі адзінаборстваў. Іх у клубе каля 200 чалавек.

А літаральна на мінулым тыдні Саюз афганцаў прымаў у сябе бацькоў загінуўшых воінаў. Гэта даўняя традыцыя. У Гродне - 24 сям'і, у якіх падчас афганскай кампаніі загінулі сыны альбо мужы. Усе гэтыя сем'і могуць разлічваць на дапамогу Саюза. Састарэлым ужо маці ўвосень завозяць бульбу ды іншую гароднiну, дапамагаюць вырашаць юрыдычныя спрэчкі і абавязкова запрашаюць на ўсе святы.

Гэтым разам быў Дзень нараджэння Веры Канстанцінаўны Карней. Свайго сына Сяргея яна не дачакалася жывым з Афганістана. А цяпер ужо ўнук Жэня паступае ў Ваенную акадэмію на памежны факультэт. За святочна накрытым сталом з шампанскім, тортам, садавінай і гарбатай, сярод гасцей былі таксама Раіса Пятроўна Бардан, Ніна Кузьмінічна Блахіна, Раіса Уладзіміраўна Лісанава, Данута Станіславаўна Чыгер і Надзея Канстанцінаўна Юртава. Тут жа, у простай гутарцы, Сяргей Камянецкі і яго намеснік Валерый Аутка, разліваючы па келіхах шампанскае, абмеркавалі некаторыя іх надзённыя праблемы, паразмаўлялі пра здароўе. Дарэчы, штогод каго-небудзь з іх адпраўляюць у Цэнтр медычнай рэабілітацыі ў Віцебск. Жанчыны вельмі хвалілі гэты Цэнтр: цудоўная дыягностыка, працэдуры, добрыя ўмовы для пражывання.

На ўсю дзейнасць Саюз сам зарабляе сабе сродкі, зарэгістраваўшы фірму «Інтэрбел». На пытанне, ці мае фірма, заснавальнікам якой з'яўляецца Беларускі саюз афганцаў, якія-небудзь фінансавыя ільготы, Валерый Аутка прамовіў: «Нам не патрэбныя ніякія ільготы, мы не хочам паўтарэння трагедыі, якая адбылася на Катлякоўскіх могілках у Маскве. Аднак калі б грошы, накіраваныя на патрэбы арганізацыі, нам дазволілі спісваць у выдаткі, мы б такую дзейнасць маглі разгарнуць, па-сапраўднаму дапамагаючы нашым людзям. Аднак...»

Аднак, на жаль, фіскальная палітыка ў нашай дзяржаве робіцца ўсё больш жорсткай, разлічваць на разумныя адносіны кіраўніцтва да дабрачыннасці не даводзіцца. Застаецца толькі паставіць у драўляным храме Іаана Хрысціцеля свечку за тых, хто робіць высакародныя справы, нягледзячы ні на што.

**Ніна Палуцкая**

## НАВІНЫ ГАРАДЗЕНШЧЫНЫ

**Электронная ведамка «Духахрам» мастоўскага пісьменьніка Лявона Вашко - першы беларускі электронны часопіс. Выходзіць ён на трох мовах - беларускай, расейскай і ангельскай. Рассылка адбываецца бясплатна. Падпісацца на «Духахрам» можа любы ахвотны. Дастаткова зьвярнуцца з замовай на адрас liavon@yahoo.com і паведаміць, на якой мове вы хацелі б атрымліваць электронны часопіс.**

**У Горадні ствараецца «Таварыства аховы жывёлаў».** У плянах таварыства - пошук гаспадароў для бадзяжных жывёлаў, змаганьне з гвалтам над жывёламі. Усе цікаўныя могуць зьвяртацца на нумар тэлефону 47-02-47 (запрасіць Юрыя).

**У апошнія дні ліпеня па Гарадзеншчыне прайшоў тур выкладчыкаў ангельскай мовы, якія працавалі на працягу ліпеня ў міжнародных лінгвістычных летніках, што зарганізавала рэспубліканскае грамадзкае аб'яднаньне «Беларуская Асацыяцыя клюбаў ЮНЕСКА»** (belau@user.unibel.by). Летнікі адбываліся ў Ждановічах (Менскі раён) і ў Смаргоні. Амерыканскія настаўнікі наведалі Іўе, Ліду, Наваградак, Мір, Гародню, Слонім і Жыровічы. Фотаздымкі па выніках турыстычнага тура ўвойдуць у каляровы каталёг па выніках міжнародных лінгвістычных летнікаў, якія прайшлі ў Беларусі.

**На фірме «Лідаграпраммаш» штодзённа зьбіраюцца тры збожжаўборачныя камбайны.** Плянуецца, што да канца году гаспадаркі Беларусі атрымаюць каля двухсот новенькіх машынаў. Адзін з першых камбайнаў адразу з канвеера накіраваны ў аграфірму «Мажэйкава» Лідзкага раёну. Сваім ходам машыны накіраваліся на Смалявіцкую бройлерную птушкафабрыку, у саўгас-камбінат «Барысаўскі», у калгасы Валожынскага, Вілейскага раёнаў і Берасьцейскую вобласьць. Пераважную большасьць камлектуючых для лідзкіх камбайнаў пастаўляе германская фірма «Кейс». Вузлы і дэталі паступаюць таксама з ЗША ды Італіі, а гаспадары самастойна наладзілі выпуск зерневых бункераў, жняярак і нахіленых камэраў. Спэцыялісты лічаць, што гэты камбайн на сёньняшні дзень адзін з лепшых па сваіх тэхнічных паказчыках з тых, што выпускаюцца ў краінах СНД.

**22 ліпеня ў Мастах адбылося ўрачыстае адкрыцьцё першага ў горадзе касьцёлу.** Ён збудаваны ў гонар Маці Боскай Тройчы Цудатворнай. Касьцёл будаваўся на працягу васьмі гадоў. На ўрачыстасьць сабралася некалькі тысячаў вернікаў. Храм, нягледзячы на свае ўнушальныя памеры, ня здолеў зьмясціць усіх ахвотных, большасьць людзей падчас імшы знаходзілася на вуліцы. На ўрачыстасьці прысутнічаў нунцый Папы Рымскага ў Беларусі, гарадзенскі Біскуп і многія іншыя госці.

**Падчас сэлектарнай нарады ў Мастах менскія камэрсанты прывезьлі на продаж партрэты А.Лукашэнкі.** Звычайныя партрэты, якія паўсюдна прадаюцца ў крамах, яны зьмясьцілі ў драўляныя рамкі, падфарбавалі, пакрылі лакам і надалі гэтаму твору цалкам салідны выгляд. Кошт аднаго такога партрэта склаў 11600 рублёў. Вымушанымі пакупнікамі сталі старшыні мясцовых калгасаў - адмовіць ніхто ня здолеў. Грошы пералічвалі па безнаяўнаму разьліку. Дарэчы, адзін партрэт А.Лукашэнкі ў рамцы складае амаль месячны заробак мастоўскага калгасніка. Бізнэс ёсьць бізнэс...

**З 20 ліпеня ў Гародні распачала працу «Нясвіжская акадэмія».** Дзейнасьць акадэміі, створанай шэсьць гадоў таму ў Нясвіжы сумесна польскімі і беларускімі навукоўцамі, зьвязаная з аховай ландшафтаў. Першы курс адбываўся ў Нясвіжы, адкуль і ўзялася назва. У Гародні падобнае мерапрыемства адбываецца ўпершыню. Курс лекцыяў чытаюць навукоўцы з Польшчы і Беларусі для архітэктараў зь Літвы, Львова і Гародні. Гэтым разам асаблівую ўвагу акадэмія надала ахове і турыстычнаму асвойваньню Аўгустоўскага каналу, што праходзіць па Гарадзеншчыне.

**БАРЦ**

# У нас быў рэвізор з Вашынгтона

**4 жніўня работу Гарадзенскага Цэнтра падтрымкі прадпрымальніцтва (ЦПП) рэвізаваў Стывен Дзін - кіраўнік праграмаў развіцця і падтрымкі прадпрымальніцтва ў краінах былой СНД.**

Цэнтр міжнароднага прыватнага прадпрымальніцтва (CIPE) у Вашынгтоне фундаваў праект па аналізу стану малога бізнесу ў РБ. У Гродне праект ажыццяўляўся пад кіраўніцтвам Цэнтра падтрымкі прадпрымальніцтва. У рамках праекта агенцтва «Бантонфакс» наладзіла маніторынг развіцця прадпрымальніцтва на Гарадзеншчыне, выпусціла бюлетэнь «Бізнес-прэс» з разнастайнай інфармацыяй па стану малога бізнесу. Акрамя таго, гарадзенскія прадпрымальнікі могуць атрымаць рэальную дапамогу ад ЦПП - навучальныя курсы і семінары, інфармацыйна-рэкламныя паслугі, кансультацыі па зменах у заканадаўстве.

У Беларусі для рэалізацыі праекта CIPE было створана шэсць інфармацыйна-аналітычных цэнтраў. З Гродна Стывен Дзін паехаў у Віцебскі цэнтр.

Апрача праекта падтрымкі малога бізнесу прадстаўнік CIPE ў Гродне цікавіўся станам у грамадскім руху, сустрэўся з кіраўніком «Гродзенскай ініцыятывы» Сямёнам Домашам.

**Алена Сіневіч**

# Званароў рыхтуюць у Глыбокім

**У Глыбокім Віцебскай вобласьці знаходзіцца адзіная пакуль на Беларусі школа званароў.**

Сёлета такую экзатычную спэцыяльнасьць у школе атрымалі васьмёра чалавек, двое зь якіх жанчыны. Адна манахіня прыехала ў Глыбокае аж з Тульскага манастыра, каб авалодаць мастацтвам званарства. Заняткі ў школе праводзяцца на працягу чатырох месяцаў і ўключаюць ня толькі практыку, але і лекцыі сьвятароў, этнографаў, гісторыкаў, мастацтвазнаўцаў. Наступны курс пачне заняткі ў школе зь верасьня.

# «Як памру, то пахавайце...»

**Гарадскі аўтобус N13 пачынае свой тужлівы шлях на Савецкай плошчы Гродна. Ужо ў салоне адчуваецца невыпадковасць падбору пасажыраў. Пераважаюць жанчыны ў чорнай вопратцы і цёмных хустках. Прыцішаная, напаўшэптам, гаворка. Кветкі ў руках. Мужчыны трымаюцца самавіта і годна. Гэтыя людзі едуць на новыя могілкі ў Аульс.**



Прыпынкаў няшмат. На аўтапрывакзальнай плошчы пасажыраў пабольшала. Некалькі паваротаў - і аўтобус выязджае на менскую магістраль. Жанчына побач спачувальна запыталася:

- Таксама праведаць родных?

Тлумачу, што сюды еду ўпершыню. Мае родныя тут не пахаваныя. Але, на жаль, іншыя гарадзенскія знаёмыя ўжо знайшлі апошняе супакаенне.

Субяседніца між тым тлумачыць, што год таму пахавала брата. Памёр у бальніцы, «не ад таго лячылі».

Мяне цікавіла: ці праўда, што ў Аульсе неспрыяльныя ўмовы для пахавання нябожчыкаў. Прыгадалася публікацыя ў абласной газеце «Гродзенская праўда» ад 8 чэрвеня 1999 года. Чытачка Л.Ануфрыенка ў нататцы «Могілкі - звалка?» скардзілася на смецце, якім разам з зямлёю закопвалі магілу, узгадвала правалы на месцы нядаўніх пахаванняў. Зямля апускалася нібыта пад уздзеяннем грунтовых водаў.

- Што казаць, як каму пашанцуе, - дыпламатычна адказала мая спадарожніца. - Самі паглядзіце.

Неўзабаве збочылі з асноўнай аўтатрасы. Дарогу перасекла чыгунка. Шлях прыпыніў чырвоны знак светлафора. Стаім, чакаем...

Пад'езд да могілак зроблены добры. З бакоў падступае падлесак. Сапраўды, ўзнікае пачуццё, што мясціна знаходзіцца як бы ў лагчыне. Ходзячы між пахаванняў, заўважаеш драўляныя сходні, пакладзеныя ў найбольш нізкіх месцах. Значыць, сапраўды падступае вада. Гэта вам не старыя могілкі на праспекце Касманаўтаў, дзе пясчаная глеба.

Рабочыя могілак якраз былі без работы, пераглядалі рыштунак каля свойго будынка. Дапамаглі знайсці пахаванне майго знаёмага, былога дырэктара СШ N26 Валянціна Шаўцова, які памёр два гады таму.

- Колькі зараз хаваем у дзень? Сем-восем нябожчыкаў. На гэтых могілках лік ужо перавысіў пятую тысячу.

Людзі прыводзяць да парадку магілы родных. Фарбуюць агароджы, прыбіраюць навокал, цэментуюць дарожкі. Усё гэта робіцца няспешна і надзейна. Здаецца, што само жыццё тут прыцішыла хаду, даючы магчымасць паразважаць над роднымі магіламі пра сэнс і хуткацечнасць побыту на гэтым тлумным свеце...

На шляху ў Гродна салон аўтобуса таксама не пуставаў. Вольных сядзячых месцаў не было.

- Гэта яшчэ што, - тлумачыць мой сусед, спрацаваны мужчына з моцнымі рукамі. - Я езджу часта, іншы раз не сесці ў аўтобус. Сёння папросту будзённы дзень, а ў выхадныя набіваемся, як селядцы. Двух рэйсаў на дзень малавата.

Другая жанчына, якая нядаўна апакала роднага чалавека, скардзіцца, што цяпер пахаванне каштуе вельмі дорага.

У Гродне я завітаў у магазін цэнтра рытуальных паслуг «Памяць», што па вуліцы Ажэшкі. У газетнай рэкламнай абвестцы значылася, што «пры набыцці дамавінаў і вянкоў бясплатна даецца катафалк і аркестр». Увогуле, танную дамавіну можна купіць за 18,5 тысячы рублёў, але ёсць і за 89 782 тысячы. Гэта сапраўды свайго роду ўзор пахавальнага мастацтва. Можна набыць дамавіну коштам 32-37 тысячы, альбо за 47 423 тысячы рублёў. Як каму па кішэні.

Помнік каштуе звыш 125 тысяч, таблічка пад надпіс - 1 573 рублі, вянок ад 2 541 да 6 655, драўляны крыж - 4 235 - 6 032.

Праводзіны чалавека ў яго апошні шлях даўно ператварыліся ў даходлівы бізнес, пабудаваны на горы, якога не пазбегне рана ці позна ніхто з нас. Рынкавая аснова тут непазбежна. Аднак у такой спецыфічнай справе неабходна яшчэ простае спачуванне і спагада.

**Антон Лабовіч**

# Трах-цібідох-цібідох - і вось яно, шчасце па пошце

**Магчыма, вы скажаце, што «лісты шчасця» - глупства, не вартае траты газетнай плошчы. А магчыма, калі атрымаеце па пошце такое пісьмо, ўцікую будзеце яго перапісваць 20 разоў, а потым ананімна рассылаць сябрам і знаёмым. Тым больш, што нехта ж гэта робіць, раз яно дабралася і да ПАГОНІ - рэдакцыя атрымала па пашце адзін экзэмпляр.**

Прызнаюся шчыра - аднойчы, яшчэ ў ружовыя піянерскія гады, я добрасумленна перапісала сем разоў такі «ліст шчасця» і раздала сяброўкам. Было гэта ў школе, за шчасце ўяўлялася сяброўства аднаго хлопчыка, а не горы золата і аўтамабілі. Аднак калі абяцанае ў пісьме шчасце не звалілася з неба - усё, лісты шчасця страцілі ўсялякі аўтарытэт.

Аднак атрымаць удачу па пошце ў выглядзе ліста - моцная спакуса, якая вымушае і дарослых людзей рабіць глупствы. Прычым у здаровым розуме і пры памяці. Пісьмо звычайна абяцае неверагодныя цуды, калі адрасат зробіць копіі і разашле іх: 20 мільёнаў даляраў праз пяць дзён, добрую работу, новую машыну і гэтак далей. У нашым лісце так і напісана: «Вас напаткае шчасце з паралельных сусветаў... Ты атрымаў удачу па пошце, не высылай грошай, лёс не мае кошту... Удача выбрала цябе вяхой на сваім шляху... «. Ага, заманлівa - бясплатна і столькі шчасця. Прычым, калі шчаслівы ўладар пісьма аслухаецца і прайгнаруе яго - усё, пішы прапала; чалавека чакае чорны лёс: розныя няўдачы, беднасць, хваробы, а то і смерць.

Дык што ж вымушае нашых людзей сёння, у век тэхнічнага прагрэсу і паспяховай бітвы за ўраджай спадзявацца на што і каго заўгодна, толькі не на сябе? З гэтым пытаннем мы звярнуліся да настаяцеля Каложскай царквы айца Аляксандра Велісейчыка.

- Людзей вымушаюць гэта рабіць забабоны ці прымхі - марная вера. Забабоны з'яўляюцца там, дзе духоўны голад, дзе няма веры. Тады месца, якое павінен займаць Бог, займае вера ў што заўгодна, і людзі самі ствараюць сабе тое, у што вераць - ідалаў, розныя цуды, грошы і так далей.

*- Як, на Вашу думку, ці можна назваць рысай нашага часу спадзевы на містычныя сродкі шчасця, на тое, што яно зваліцца з неба?*

- Усё гэта было характэрна ў многія часіны, і называецца яно - шаманства, магія. Сэнс шаманства - простым спосабам завалодаць звышнатуральнымі сіламі і скіраваць іх на свой дабрабыт. Зрабіць так, каб не трэба было працаваць, але стаць багатым і шчаслівым. Хрысціянства ж прапаноўвае іншы шлях - праз саюз Бога і чалавека. Дзеля гэтага чалавек павінен падымацца ў гару, да неба, а пад'ём - гэта заўсёды вельмі цяжка. Бо прыпадобніцца да Бога можна толькі праз штодзённую працу над сабою, праз адмову ад грахоўных пажадаў.

*- Ну, гэта доўга і невядома яшчэ, ці атрымаецца...*

- І тут з'яўляецца спакуса знайсці шчасце лёгка і хутка, калі ты не павінен працаваць над сабой. Наша мінулае - камуністычная псеўдадухоўнасць - гарантавала нам шчасце ў будучыні. Наша сучаснае - культура Галівуда - раіць «жуй жуйку і атрымлівай асалоду». Што моладзь і робіць.

*- Дык у чым жа рэцэпт шчасця?*

- Вось скажы шчыра, у Пісанні дзе-небудзь ты сустракала слова «шчасце»?

*- Быццам бы не. «Радасць», «весялосць», «благадаць» - было, «шчасце» - хутчэй не.*

- Я таксама не сустракаў. І мне, калі шчыра, цяжка сказаць, што такое - шчасце. Гэта, хутчэй, свецкае паняцце. Ці можа быць шчаслівым багаты і задаволены сабою чалавек? У Апакаліпсісе ёсць радкі: «Бо гаворыш ты: «Я багаты, я ўзбагацеў і ні ў чым не маю патрэбы»; а не ведаеш, што ты нешчаслівы і бездапаможны, і бедны, і сляпы, і голы». (Адкрыццё Яна Багаслова, 3:17).

*- Аднак хацелася б і ў зямным жыцці проста добрага жыцця, камфорту, дабрабыту, ладу... Усё ж такі, як быць шчаслівым у гэтым жыцці?*

- Мабыць, шчасце - гэта быць задаволеным сваім становішчам і дзякаваць за гэта Богу. Для мяне - так.

**Алена Сіневіч**

# Варвар са Скідаля

**Распачата крымінальная справа па факту вывядзення з эксплуатацыі дарагога абсталявання, які адбыўся 2 жніўня ў горадзе Скідаль.**

Гэта здарылася ў выніку крадзяжу з газавай кацельні, размешчанай па вуліцы Інтэрнацыянальная, вымяральных прыбораў, якія ўтрымліваюць каштоўныя металы. Злодзей пранік у памяшканне, узламаўшы замок уваходных дзвярэй. Сума скрадзенага і прыведзенага ў непрыдатнасць абсталявання складае 1 мільён 800 тысяч рублёў. Ва ўчыненні крадзяжу і наўмысным пашкоджанні абсталявання падазраецца непрацуючы жыхар Гродна, якому пакуль удаецца схавацца ад праваахоўных органаў.

У выпадку доказу ягонай віны, яму пагражае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі да 10 гадоў з канфіскацыяй або без канфіскацыі маёмасці.

**Ася Куніцкая**

# Калі цячэ дах - трэба ладзіць пікет

**7 жніўня жыхары ЖБК N41 (дамы N43, 45, 47 па вуліцы Дамброўскага ў Гродне) планавалі правесці пікет, каб прыцягнуць увагу гарвыканкама да сваіх патрабаванняў - адрамантаваць дах, які знаходзіцца ў аварыйным стане, у сваіх дамах (гл. ПАГОНЮ ад 3 жніўня 2000 года).**

Аднак першага жніўня грамадзяне атрымалі адмову ў правядзенні пікета за подпісамі старшыні гарадзенскага выканкама А.Пашкевіча і выконваючага абавязкі кіраўніка справамі В.Шанцiла. У адмове сказана, што «замоўца не выканаў патрабаванні артыкула 6 закона «Аб сходах, мітынгах, вулічных шэсцях, дэманстрацыях і пікетаванні», але ў чым канкрэтна выявіліся парушэнні «патрабаванняў» - не гаворыцца.

**Ул.інф.**

# «Рэпарцёр» за нумарам два

**Выйшаў з друку другі нумар апальнай гарадзенскай газеты «Рэпарцёр». Журналісты не здаюцца і працягваюць змагацца з гарадзенскай уладай на старонках свайго выдання.**

У гэтым нумары чытачам прапануюцца вынікі апытання на тэму «Заробкі ці непрацоўныя даходы» з'яўляюцца асноўнай крыніцай існавання гарадзенскіх чыноўнікаў. 74 працэнты апытаных лічаць усё, што заўгодна, але толькі не заробкі.

Галоўны артыкул нумару «Тры ў адным» прысвечаны загадчыку юрыдычнага аддзела гарвыканкама Валерыю Шанцілу. Менавіта ён юрыдычна афармляе ўсе адмовы ўладаў у рэгістрацыі «Рэпарцёра».

Наступны нумар газеты выйдзе праз тыдзень. Між тым набліжаецца 18 жніўня. Той дзень, калі гарвыканкам павінен даць адказ - быць «Рэпарцёру» альбо не.

**Ул.інф.**

# Нацыянальны універсітэт вырашылі саслаць у Заслаў`е

**Другога жніўня адбылася сустрэча кіраўніцтва ТБМ імя Ф.Скарыны з рэктарам Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта спадаром Леанідам Ціханавым па абмеркаванні пытанняў, звязаных з адкрыццём Беларускага нацыянальнага універсітэта.**

Старшыня ТБМ Алег Трусаў распавёў пра акалічнасці стварэння БНУ і перадаў матэрыялы, распрацаваныя Таварыствам.

Спадар Ціханаў паведаміў, што ў Педагагічным універсітэце беларускамоўныя плыні былі ўтвораныя значна раней, а цяпер практычна цалкам установа перайшла на беларускамоўнае выкладанне. Гэты пераход закрануў найбольш кафедры натуразнаўчых і дакладных дысцыплінаў. Ва універсітэце распрацаваная падтрымка выкладчыкам, якія пераходзяць на беларускую мову выкладання. Пастаянным застаецца паказчык выбару мовы - больш за палову абітурыентаў трымаюць уступныя іспыты па беларускай мове і літаратуры. Спараджае надзею і тое, што конкурс на спецыяльнасці, звязаныя з роднай мовай, культурай ды гісторыяй, - адзін з найбольш высокіх - 3-4 асобы на месца.

На сустрэчы вялася гутарка і пра стварэнне філіялу педуніверсітэта ў Лідзе. Рэктар пагадзіўся паставіць гэтае пытанне дзеля абмеркавання на вучонай Радзе.

Акадэмік Ціханаў выказаў пэўнае зацікаўленне ў справе стварэння БНУ і прапанаваў абрацць месцам працы універсітэта старажытнае Заслаўе, узгадаўшы еўрапейскую традыцыю месціць элітныя навучальныя ўстановы ў мястэчках блізу буйных гарадоў.

**Ул. інф.**

# Ніводнае парушэнне не застанецца незаўважаным

**У гарадах і раёнах вобласці працягваецца актыўная падрыхтоўка незалежных грамадскіх назіральнікаў. Яны, а гэта ў асноўным сябры няўрадавых арганізацый, ужо атрымалі досвед на семінарах, арганізаваных абласным Каардынацыйным саветам па падрыхтоўцы назіральнікаў.**

Вывучэнне адпаведных раздзелаў і артыкулаў Канстытуцыі, Выбарчага кодэксу, міжнародных выбарчых стандартаў, іншых заканадаўчых актаў праведзена ў Ваўкавыску, Шчучыне, Навагрудку, Астраўцы, Воранаве, Лідзе, Слоніме ды іншых гарадах.

Паводле словаў каардынатара абласнога Каардынацыйнага савета юрыста Аляксея Шульгі, у рэгіёне будзе арганізаваны яшчэ шэраг семінараў згодна распрацаванай праграме, у тым ліку некалькі заняткаў пройдзе ў Гродне. У арганізацыі навучання актыву аказвае дапамогу Каардынацыйны савет дэмакратычных грамадскіх арганізацыяў, створаны яшчэ ў лютым бягучага года. Усяго мяркуецца падрыхтаваць каля тысячы кваліфікаваных наглядальнікаў.

**Сцяпан Ярашчук**





ПЯРЭСТЫ КУТ

# Сураў накарміў Еўропу дранікамі са смятанай

**Лета набліжаецца да заканчэння і разам з ягонымі апошнімі днямі пачынаюць «зляцацца» ў свае астылыя ужо творчыя майстэрні прадстаўнікі культурнага бамонду Гародні. У нядзелю з «творчага адпачынку» - прадстаўнічага міжнароднага пленэра ў польскім Торуні вярнуўся мастак Алесь Сураў. ПАГОНЯ злапала яго ў свае расстаўленыя сілкі...**

- Гэта быў ужо 24 міжнародны пленэр, зарганізаваны Торуньскім таварыствам культуры. Меў назву «Канец стагоддзя». На працягу двух тыдняў, з 21 ліпеня па 5 жніўня, 15 мастакоў з шасці краінаў Еўропы мелі магчымасць выдатна, для душы, папрацаваць у лесе, літаральна у некалькіх кіламетрах ад Торуні. Былі мастакі з Балгарыі, Польшчы, Славакіі, Чэхіі, Літвы, а з Беларусі быў адзін Сураў.

***- І як на цябе выйшлі арганізатары пленэра?***

- Яны вельмі добра валодаюць сітуацыяй у Беларусі. З польскай прэсы ведаюць пра спектакль «Ліпавічкі», пра мае карыкатуры. Нейкім незвычайным чынам яны знайшлі сувязі, кантакты і праз Менск выйшлі на мяне ў Гродне. Даслалі запрашэнне - і я даў згоду.

***- Якія самыя моцныя ўражанні ад пленэра, ад Торуня, ад самога сябе ўрэшце рэшт?***

- Я ніколі не мог сабе ўявіць, што так цудоўна валодаю польскай мовай! Усе былі папросту здзіўленыя маім веданнем. Польскія сябры казалі: «Ты так добра гаворыш па-польску - і ты не паляк?!»

Сам пленэр быў падрыхтаваны на вельмі высокім узроўні. Выдатныя адносіны з боку арганізатараў. Выключны ўзровень жывапісцаў і графікаў. Мастакі прадстаўлялі розныя пакаленні і розныя школы.

Надзвычай уразіла вялікая цікавасць да Беларусі і беларускіх мастакоў.

Адным з пунктаў праграмы пленэру былі творчыя вечары кожнага мастака.

***- Дарэчы, па часе пленэр прыпаў акурат на Дзень Незалежнасці Беларусі. Як ты яго адзначыў у Торуні?***



Алесь Сураў з маскай вядомага беларускага палітыка Л.

- І вось менавіта ў гэты дзень быў мой творчы вечар. Я сам выбраў 27 ліпеня. Усе пыталіся - чаму сёння, чаму сёння? Дзень Незалежнасці Беларусі! - кажу.

Лічу, што творчы вечар абсалютна ўдаўся. Кожная дэлегацыя мела свой стол. Балгары навезлі ракіі, сухога мяса, перцу. Хто баравічку славацкую прывёз, хто піва чэшскае.

Я набраў зуброўкі, сала, гуркоў і зрабіў шыкоўны стол. А пасля замовіў у рэстарацыі, каб падалі яшчэ і дранікі са смятанай.

Таксама даў некалькі інтэрв'ю польскім газетам. Іх цікавілі, у асноўным, адносіны культурнага бамонда Беларусі да палітычнай сітуацыі ў краіне.

***- Як працавалася на польскім паветры?***

- Ведаеш, апошнім часам мне даводзілася часцей пісаць толькі дзеля выжывання. А гэты пленэр, ягоная атмасфера дапамаглі мне самасцвердзіцца, натхніцца, атрымаць нейкі ўнутраны дазвол на больш сур'ёзную працу.

Усяго за 16 дзён я зрабіў 12 работ, большасць з іх - за ўсіх. Я маляваў фактычна пейзажы. Зрабіў і адну тэматычную працу - пра Торунь і беларусаў.

На пленэры была адна абавязковая ўмова - адну карціну, па выбару, як пажадаюць арганізатары, аддаць для Торунскага таварыства культуры. Торунь - горад, які ўвабраў у сябе розныя культуры і працягвае захоўваць статус шматнацыянальнага горада. Таму гэта проста геніяльная ідэя! Бо Торуньскі музей мае ўнікальную калекцыю сучаснага мастацтва з усяго свету.

Па заканчэнні пленэра адбылася выстава, дзе былі выстаўленыя і мае работы.

***- Алесь, да канца лета яшчэ ёсць два тыдні. Не маеш намеру зноў падацца ў «творчы адпачынак»?***

- Так, праз тыдзень еду ў Нямеччыну, у Берлін. Нямецкі бок запрасіў на творчую прэзентацыю і наладжванне супольных кантактаў.

**Павал Мажэйка**

# У Радуні беларускасці засталося на адзін клас

**Вучні апошняга ацалелага беларускага класа ў Радунскай СШ N2, што на Воранаўшчыне, а таксама тыя, хто вывучае ў Радуні беларусістыку, здзейснілі двухдзённае падарожжа ў Наваградак. Школьнікі агледзелі горад, пабывалі ў краязнаўчым музеі, музеі Адама Міцкевіча, Наваградскім цэнтры «Камяніца». Разам з сябрамі мясцовага турыстычнага цэнтру пабывалі на знакамітым возеры Свіцязь, завіталі ў Бярозаўку ды Ліду.**

Апроч гэтага, радунцы пазнаёміліся з кіраўніцай «Камяніцы» Таццянай Царук, Аляксандрам Царуком, Уладзімірам Круцікавым, Лявонам Анацкам. Даведаліся пра дзейнасць Станіслава Судніка, Артура Ганько, цэнтру «Генэрацыя» ды іншых нашых вядомых адраджэнцаў.

У Радунскай школе N2 склалася крытычная сітуацыя не толькі з беларускімі класамі, але і з вывучэннем беларускай мовы. Разбуральная дзейнасць некаторых гора-педагогаў прывяла да таго, што многія вучні нават не ўмеюць як мае быць размаўляць па-беларуску. Толькі высілкамі навучэнцаў і грамадскасці ўдалося захаваць адзін беларускі клас. Але і ён пад пагрозай пераходу на «человеческий язык».

Ёсць надзея на тое, што з прыходам новага маладога дырэктара школы і новага завуча, беларускі клас захаваецца.

**Віталь Куплевіч**

1. Адбітак з гравюры на паперы, тканіне. 2. Вялікі яркі метэор. 3. Білет з правам на пэўнае месца ў вагоне поезда. 4. Невялікае марское рыбалавецкае судна. 5. Цагляны або каменны дом. 6. Зімовы дождж, які замярзае на зямлі і дрэвах ледзяной коркай. 7. Цёмнае, цеснае памяшканне. 8. Сапламяны жгут для звязвання снапоў.



Адказы на галаваломку, змешчаную ў N28(475):

1. Балалайка. 2. Выцінанкі. 3. Абалонка. 4. Падвеска. 5. Рыленкі. 6. Барылка. 7. Броўка. 8. Світка. 9. Пешка. 10. Горкі.



# Дзевяць плюс адзін



**Першыя дзевяць пытанняў з'яўляюцца своеасаблівым тэстам на ўзровень вашай эрудыцыі. Правільныя адказы на іх змешчаныя ніжэй. На дзесятае пытанне конкурсу трэба адказаць пісьмова на адрас рэдакцыі (на паштоўках ці канвертах пазначыць - «9+1»). Сярод лістоў ды паштовак з правільнымі адказамі будзе праведзена лёсаванне, якое і вызначыць, хто ж стане пераможцам і атрымае прыз ад рэдакцыі нашай газеты.**

**1. У адрозненне ад егіпецкага сфінкса з галавою фараона ды ільвіным целам, у старажытнагрэчаскага былі жаночыя галава і грудзі, а за спіною...**

а) раздвоены хвост дракона;

б) грыва і крылы;

в) крылы і змяіны хвост.

**2. Якая расліна, паводле некаторых паданняў, расце перад шыбеніцамі?**

а) страстацвет;

б) мандрагора;

в) кульвана.

**3. Крывец - гэта...**

а) самая вялікая насякомаедная птушка;

б) кулік-сарока;

в) родавая назва глушца.

**4. Порна-зорка Сэм Дзіксан - былы паліцэйскі, які пакінуў службу некалькі гадоў таму ў знак пратэсту супраць пераследу паліцыяй...**

а) геяў;

б) «начных матылькоў»;

в) наркаманаў.

**5. Крылаты яшчар, які жыў 180 мільёнаў гадоў таму спаў...**

а) не заплюшчваючы вочы;

б) як кажаны;

в) удзень.

**6. Сваю моц, набытую на занятках баявым мастацтвам жы-гон, прадэманстраваў 49-гадовы кітайскі манах Цзе-Цянь, які падняў сваім «фаласам» на вышыню 15 см вагу ў...**

а) 15,3 кілаграма;

б) 23,8 кілаграма;

в) 31,5 кілаграма.

**7. Самай засушлівай з'яўляецца пустыня...**

а) Атакама;

б) Гобі;

в) Сахара.

**8. Знакаміты халат амерыканскага баксёра Оскара дэ ла Хойі пашыты з двух сцягоў - амерыканскага і ...**

а) чылійскага;

б) перуанскага;

в) мексіканскага.

**9. Камень, што змяшчае сульфат алюмінія, называецца ...**

а) турмалін;

б) агат;

в) біруза.

**Правільныя адказы:** 1в, 2б, 3б, 4а, 5б, 6в, 7а, 8в, 9в

Дзевяць правільных адказаў - выдатна, **7-8** - вельмі добра, **5-6** - добра, **3-4** - здавальняюча, **менш як 3** - у Вас ёсць над чым папрацаваць.

**10. Невытлумачальныя знаходкі ў камянях жывых жабаў падштурхнулі людзей на жорсткі эксперымент. Паспрабуйце расказаць пра яго падрабязней.**

**Правільнага адказу на дзесятае пытанне папярэдняга конкурсу (гл. ПАГОНЮ N24 ад 6 ліпеня г.г.), на жаль, не знайшлося сярод версіяў нашых чытачоў.** Адказ чакаўся наступны. У тым рэстаранным меню ёсць спецыяльная старонка, якая мае назву «Апошняя вячэра на «Тытаніку». Гэта не што іншае, як шэсць стравау, што падавалі на караблі ў тую трагічную ноч, калі ён сутыкнуўся з айсбергам. За адзін толькі месяц пакаштаваць гэтыя стравы пажадалі дзве тысячы наведвальнікаў рэстарана.

# Як раіць Дэйл Карнэгі...

**Паспрабуйце прыслухацца да шасці парадаў, якія дазволяць спадабацца людзям, і сямі правілаў, выкананне якіх зробіць Ваша сямейнае жыццё больш шчаслівым.**

І. 1. Шчыра цікаўцеся іншымі людзьмі.

2. Усміхайцеся.

3. Памятайце, што імя чалавека - гэта самае прыемнае і важнае для яго слова.

4. Будзьце добрым слухачом.

5. Гаварыце пра тое, што цікавіць Вашага суразмоўцу.

6. Унушайце Вашаму субяседніку ўсведамленне ягонай значнасці і рабіце гэта шчыра.

ІІ. 1. Не прыдзірайцеся адзін да аднаго.

2. Не спрабуйце перарабіць яго (яе).

3. Не крытыкуйце.

4. Выказвайце адзін аднаму шчырую ўдзячнасць.

5. Не забывайцеся на невялікія знакі ўвагі.

6. Будзьце папераджальным, далікатным і ветлівым чалавекам.

7. Чытайце добрыя кніжкі пра сексуальны бок шлюбнага жыцця.

# Гараскоп

♈ **Баран (21.03-20.04).** Болей увагі надайце свайму іміджу - шмат будзе залежаць ад таго, якое ўражанне застанецца ад Вашага візіту да знаёмых.

♉ **Бык (21.04-20.05).** Усе дзеянні, скіраваныя на ўздзеянне ў зман блізкага чалавека, будуць пазбаўленыя ўсялякага сэнсу і толькі пашкодзяць.

♊ **Блізняты (21.05-21.06).** Не рэагуйце так востра на крытыку з боку сваякоў. Скарыстайцеся падтрымкай саюзнікаў.

♋ **Рак (22.06-22.07).** Паспрабуйце пазбавіцца ад паўсядзённай мітусні і дрэннага настрою. Вакол адбываецца столькі цікавых падзеяў, у якіх няблага было б паўдзельнічаць.

♌ **Леў (23.07-23.08).** Настройцеся на складаны перыяд - усе рашэнні будуць давацца Вам даволі цяжка. Скарыстайцеся падтрымкай саюзнікаў.

♍ **Панна (24.08-23.09).** Грошай ізноў, як заўсёды, будзе недастаткова, але не ўсё адразу. Галоўнае - не здавацца і не засмучацца.

♎ **Шалі (24.09-23.10).** Тыдзень абяцае значныя змены на любоўным фронце. Надышоў час адмовіцца ад шкодных звычак.

♏ **Скарпіён (24.10-22.11).** Усур'ёз заняцца справамі Вам будзе складана - занадта шмат фактаў асабістага плану будуць адцягваць Вашую ўвагу.

♐ **Стралец (23.11-21.12).** Будзьце болей уважлівай(-ым) да сваіх блізкіх: магчыма рэзкае ахаладжэнне ўзаемаадносінаў практычна без аніякіх прычынаў.

♑ **Казярог (22.12-20.01).** Задумайцеся над тым, чаму толькі лічаныя сябры падзяляюць Вашыя меркаванні і перакананні.

♒ **Вадалей (21.01-19.02).** Варта паспрабаваць скарыстаць усе магчымасці, што з'явяцца ў пятніцу вечарам.

♓ **Рыбы (20.02-20.03).** Не надавайце вялікага значэння падзеям мінулага тыдня. Пазбягайце расчараванняў асабістага характару.

ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"
Адрас рэдакцыі: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11. Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96. E-mail: pagonia@irex.minsk.by
Падпісны індэкс: 63124.
Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскім абласной унітарным паліграфічным прадпрыемстве «Гродзенская друкарня» Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4.
Замова 2 507 Наклад 7 110
Нумар падпісаны да друку ў 16.00 09.08.2000 г.
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае пададзеным рэдакцыяй дыяпазітывам.
Аб'ём - два ўмоўныя друкарскія аркушы.
Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч
Камп'ютарны набор: Аксана Бурдзюк, камп'ютарная вёрстка: Аляксей Салей